www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 31 (3772)

19 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС



СУД

# Ашмянская сенсацыя!

Сапраўды сенсацыя... Ашмянскі суд вырашыў: лепшыя кадры беларускіх фатографаў, **надрукаваныя ў альбоме "Прэс-фота Беларусь 2011", утрымліваюць інфармацыю з прыкметамі экстрэмісцкага зместу.**

Справу ініцыявала Упраўленне КДБ па Гродзенскай вобласці. Пасля таго як у рукі "пільных" чэкістаў патрапіў альбом "Прэс-фота Беларусь 2011", яны звярнуліся да галоўнага ідэолага Гродзенскага аблвыканкама **Паўла Скрабко** з пытаннем: ці ўтрымліваюць здымкі заклікі да экстрэмізму? Хуценька быў створаны экспертны савет, і яго члены — выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы **Вадзім Хілюта, Аксана Шульга** і **Аляксандр Бондар —** далі заключэнне: *"Друкаванае выданне змяшчае тэкставыя і фатаграфічныя матэрыялы, якія ўтрымліваюць прыкметы заклікаў да экстрэмісцкай дзейнасці і прапагандуюць такую дзейнасць".*

Так на афіцыйным узроўні трактуецца падаплёка судовай справы.

На судзе прадстаўніца КДБ **Наталля Скурат** падтрымлівала менавіта такую пазіцыю. Што да канкрэтыкі, то яна параіла задаць гэтыя пытанні галоўнаму эксперту Паўлу Скрабко. Той у сваю чаргу абмежаваўся заключэннем суда, а на ўсе пытанні паўтараў адно: *у альбоме "змяшчаюцца наўмысна скажоныя выдумкі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці аб жыццядзейнасці Рэспублікі Беларусь у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах, якія прыніжаюць нацыянальны гонар і годнасць грамадзян Рэспублікі Беларусь".*

Спадар Скрабко "канкрэтызаваў": *"У анатацыі да фатаграфіі (стар.20) "Дэманстрант, збіты міліцыянтамі, ляжыць ля сцен Дома ўрада" змяшчаюцца загадзя лжывыя звесткі, прадстаўленыя ва ўласных выдумках аўтара ў выглядзе грубай характарыстыкі якасцяў і дзеянняў супрацоўнікаў сілавых структур у выглядзе выказвання "збіты міліцыянтамі", гэта значыць супрацоўнікі сілавых структур падаюцца як непадкантрольныя, небяспечныя асобы, патэнцыйныя крыніцы праблем, якія выклікаюць страх і боязь у іншых, якія парушаюць закон. Прыпісванне салдатам і афіцэрам праваахоўных службаў нізкіх маральных якасцяў, а таксама супрацьпраўных дзеянняў, якія здзяйсняюцца імі (перавышэнне службовых паўнамоцтваў), супярэчыць нормам маралі, прынятым у грамадстве, прыніжае і абражае іх чалавечую годнасць і дыскрэдытуе іх: прымяншае аўтарытэт дзяржаўнай улады, падрывае давер да органаў улады з боку замежных дзяржаў, замежных або міжнародных арганізацый".*



**Фатографы Юлія Дарашкевіч, Аляксандр Васюковіч і Вадзім Заміроўскі падчас судовага разгляду.**

Адвакат спытаў:

— Вы дапускаеце, што супрацоўнікі міліцыі маглі збіваць людзей?

— Так, але ж яны абаранялі маёмасць Саўміна.

— Дык, значыць, гэта не фаташоп, не пастановачны кадр, а адлюстраванне таго, што адбывалася насамрэч? — не адступаў адвакат.

— Гэты здымак абражае нацыянальную годнасць, — бубніў аблвыканкамаўскі ідэолаг.

Такім чынам, нейкай жывой дыскусіі падчас суда не адбылося. Прысутныя так і не даведаліся, якія прыкметы экстрэмізму эксперты знайшлі і ў фотаздымках, апублікаваных пад рубрыкамі "Спорт" і "Прырода".

Больш за тое, адвакаты высветлілі, што экспертаў ніхто не папярэджваў аб адказнасці і аб тым, што іх высновы будуць разглядаць у судзе. Гэта, дарэчы, з'яўляецца істотным юрыдычным парушэннем. Але прысутных журналістаў і праваабаронцаў больш цікавіла пытанне: ці стане для суда меркаванне трох нікому не вядомых выкладчыкаў больш аўтарытэтным, чым меркаванне членаў журы з сусветнымі імёнамі? Адзін з арганізатараў конкурсу фатографаў **Вадзім Заміроўскі**, які ўдзельнічаў у працэсе ў якасці зацікаўленай асобы, сказаў: **"Гэта проста здымкі, яны адлюстроўваюць рэальнасць такой, якая яна ёсць. Члены журы ацэньвалі іх якасць і выбралі самыя лепшыя. Менавіта гэтыя здымкі і былі надрукаваны ў альбоме. Якія заклікі да экстрэмізму на здымках, дзе, напрыклад, мужчыны прымяраюць капелюшы?"**

Да вушэй суддзі Ашмянскага раённага суда Аляксандра Давыдава гэтыя словы, здаецца, не дайшлі. Яго вердыкт: альбомы з работамі пераможцаў конкурсу ўтрымліваюць экстрэмісцкую прадукцыю.

Сярод журналістаў, якія прыехалі ў Ашмяны, не знайшлося ніводнага, хто б чакаў іншага рашэння. Проста таму, што мы даўно ўжо не верым у цуды. І ў тое, што ў Беларусі можна працаваць па тых дэмакратычных законах, па якіх працуюць нашы калегі ў іншых краінах.

Дарэчы, вядомы юрыст **Гары Паганяйла** не ўпершыню наведаў Ашмянскі суд па "журналісцкай справе". Напачатку была справа аб *"незаконным перасячэнні мяжы"* здымачнай групай Паўла Шарамета, цяпер — справа фатографаў. "Тая, першая, справа супраць журналістаў, якія проста паказалі частачку рэчаіснасці такой, якая яна ёсць, і цяперашняя справа супраць фатографаў, якія толькі зафіксавалі нейкія моманты жыцця, абсалютна лагічна ўпісваюцца ў нашу палітычную сітуацыю. Калі б яшчэ тады адбыліся кардынальныя змены, то ў нашай краіне сёння не было б такіх працэсаў", — сказаў Гары Паганяйла.

**Любоў ЛУНЁВА.**



**Ад імя абласнога КДБ выступала юрысконсульт Наталля Скурат.**



**Галоўны эксперт — начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама Павел Скрабко.**



**Адзін з так званых экспертаў Вадзім Хілюта.**

### ТЫМ ЧАСАМ

**Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" выказвае нязгоду з рашэннем суда Ашмянскага раёна аб прызнанні таго, што фотаальбом "Прэс-фота Беларусь 2011" утрымлівае матэрыялы з прыкметамі экстрэмісцкага зместу.**

**"Як мы ўжо адзначалі, сам факт разгляду гэтай справы ў судзе выглядаў абсурдна, і менавіта ён, а не змест альбома, здольны "падарваць давер да органаў улады", — гаворыцца ў заяве. — Спадзяёмся, што дадзенае судовае рашэнне ў законную сілу не ўступіць і Рэспубліка Беларусь не апынецца ў "чорным спісе" дзяржаў, дзе забараняюць і знішчаюць мастацкія кнігі. Разам з тым мы ўпэўнены, што беларускія журналісты і надалей будуць выконваць свае прафесійныя абавязкі, не зважаючы на жаданне ідэалагічнай вертыкалі прадстаўляць беларускую рэчаіснасць выключна ў ружовых колерах".**

МАНІТОРЫНГ

## *Каго ведаюць людзі?*

У лютым бягучага года сацыялагічная служба "Балтык—Гэлап" вырашыла высветліць, ці ведаюць беларусы апазіцыйных лідараў.

У пяцёрцы самых вядомых апазіцыйных палітыкаў аказаліся: Уладзімір Някляеў — 27%, Андрэй Саннікаў — 14%, Аляксандр Мілінкевіч — 9%, Анатоль Лябедзька і Аляксандр Казулін — па 7%.

Цікава, што апытанне было адкрытым. Іншымі словамі, людзі самі павінны былі назваць тое ці іншае прозвішча.

Такім чынам, самым вядомым апазіцыянерам на дадзены момант з'яўляецца кіраўнік незарэгістраванай кампаніі "Гавары праўду!", былы кандыдат у прэзідэнты, паэт і пісьменнік Уладзімір Някляеў.

АФІЦЫЙНА

## *Ці атрымаецца вызваліць беларусаў з лівійскай турмы?*

Суд Лівіі пачаў працэдуру перагляду справы асуджаных у гэтай краіне беларускіх грамадзян. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС Беларусі **Андрэй Савіных.**

*"Мы ведаем пра невінаватасць беларускіх грамадзян і маем намер даказаць гэта ў судзе",* — падкрэсліў ён.

На што могуць спадзявацца асуджаныя беларусы? Ці ёсць шанц вызваліць іх з лівійскай турмы? Юрысты мяркуюць, што наўрад ці. Прысуд, які быў вынесены ў дачыненні да беларусаў у чэрвені мінулага года, вельмі жорсткі. 10 гадоў турмы — гэта практычна максімальнае пакаранне, якое прадугледжана лівійскім заканадаўствам. І наіўна меркаваць, што праз год беларусаў вызваляць з-за кратаў. Але скараціць тэрмін — гэта магчыма.

Трэба адзначыць, што прысуд Ваеннага трыбунала быў адразу абскарджаны праз калегію народных адвакатаў. Беларускі бок настойваў на тым, што справа павінна быць перагледжана. Але толькі зараз у справе назіраецца рух.

Як вядома, чацвёра грамадзян Беларусі разам з грамадзянамі Украіны і Расіі былі затрыманы 27 жніўня 2011 года лівійскім паўстанцкім батальёнам "Какаа". Усёй групе было прад'яўлена абвінавачанне ў аднаўленні ваеннай тэхнікі, якая выкарыстоўвалася рэжымам Муамара Кадафі для знішчэння лівійскага народа.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Прысуд Варламаву вынесуць у маі?*

Такое меркаванне выказаў адвакат беларускага мадэльера Павел Піваварчык.

*"Ужо дапытана ў судзе каля 80% сведак і пацярпелых. Але пэўная частка сведак і пацярпелых — каля 100 чалавек — у суд не з'явіліся. У суда няма інфармацыі пра прычыны іх няяўкі",* — заявіў агенцтву "Інтэрфакс" адвакат. Як вядома, на этапе папярэдняга расследавання было дапытана каля 800 сведак і больш за 350 пацярпелых.

*"Пасля заканчэння допыту сведак і пацярпелых пачнецца вывучэнне матэрыялаў справы ў судзе. Гэты этап можа заняць 3—4 тыдні, потым пройдуць спрэчкі бакоў. І прысуд можа быць абвешчаны ў маі. Хоць дакладная дата яшчэ судом не вызначана",* — адзначыў П.Піваварчык.

Ён таксама паведаміў, што А.Варламаў рыхтуецца да новага медыцынскага абследавання на МРТ у шпіталі МУС.

*"У яго праблема з пазваночнікам. Адчувае ён сябе дрэнна, баліць спіна",* — удакладніў адвакат. Пры гэтым, паводле яго слоў, суд адмовіў у чарговым хадайніцтве аб змене А.Варламаву меры стрымання ў сувязі са станам здароўя. Пры гэтым Піваварчык адзначыў, што абарона не першы раз просіць суд адпусціць А.Варламава з-пад варты, аднак суддзя адмаўляе ў задавальненні хадайніцтваў, спасылаючыся на цяжар прад'ўленых яму абвінавачанняў.

Варламаў быў заключаны пад варту 20 мая 2011 года. Яму прад'ўлена абвінавачанне па пяці артыкулах КК. За час знаходжання пад вартай мадэльер перанёс некалькі аперацый на пазваночніку, А.Варламаву ўстаноўлена другая група інваліднасці.

ЧУЛІ?

## *Чарговы пайшоў*

*Распачата крымінальная справа ў дачыненні да былога намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама.*

Былы чыноўнік падазраецца ў тым, што ў 2010 годзе атрымаў ад кіраўніка камерцыйнай структуры больш як 69 мільёнаў рублёў за станоўчае вырашэнне пытання аб заключэнні кантрактаў на пастаўкі племянной жывёлы. Устаноўлена, што падазроны арганізаваў заключэнне шэрагу кантрактаў на пастаўку жывёлы паміж сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі Шклоўскага раёна і недзяржаўным суб'ектам гаспадарання на буйную суму. Пры гэтым ён вызначыў працэнт ад здзелкі, які трэба было выплаціць яму ў якасці хабару, што з'яўлялася ўмовай для заключэння кантрактаў.

Дзеянні падазронага кваліфікаваны на падставе ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры асобай, якая займае адказнае становішча). Да яго прыменена мера стрымання ў выглядзе змяшчэння пад варту.

**БелаПАН.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## *Спартыўныя клубы кінуцца зарабляць грошы?*

*Зараз яны змогуць займацца бізнесам без стварэння камерцыйных структур.*

Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ №191 "Аб аказанні падтрымкі арганізацыям фізічнай культуры і спорту".

Згодна з дакументам, абавязковай умовай, якая дае права спартыўным клубам Беларусі па гульнявых відах спорту атрымліваць дзяржпадтрымку ў 2014 годзе, з'яўляецца заробак 20 працэнтаў сродкаў свайго бюджэту ўласнымі сіламі на працягу 2013 года.

Спартыўныя арганізацыі, створаныя ў форме грамадскіх аб'яднанняў (саюзаў, асацыяцый), без стварэння камерцыйных арганізацый або ўдзелу ў іх маюць права на прадпрымальніцкую дзейнасць у галіне спорту, турызму, аптовага і дробнага гандлю, рэкламы, а таксама на занятак іншай дзейнасцю для арганізацыі адпачынку і забаў, пракатам бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання, дзейнасцю воднага транспарту, дзейнасцю іншага наземнага пасажырскага транспарту, які не падлягае раскладу, выконваць паслугі аўтамабільных стаянак, займацца будаўніцтвам, выдавецкай дзейнасцю, паліграфічнай дзейнасцю і выконваць паслугі ў гэтай галіне.

Яны таксама могуць змяшчаць ва ўклады (дэпазіты) у банках Беларусі грашовыя сродкі, атрыманыя ад юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія даюць ім падтрымку ў рамках указа №191. Ім даецца магчымасць перадачы на платнай падставе правоў на тэле-, радыё- і іншыя спосабы трансляцыі спартыўных спаборніцтваў і продажу квіткоў на спаборніцтвы, якія праводзяць самастойна, альбо такія мерапрыемствы з іх удзелам. Указам вызначана, што крыніцай паступлення грашовых сродкаў у бюджэты спартыўных арганізацый і клубаў у гульнявых відах спорту могуць быць даходы ад здачы ў арэнду іх уласнай нерухомай маёмасці.

Указ дае шэраг падатковых ільгот і прэферэнцый...

Адным словам, зараз беларускі спорт, хутчэй за ўсё, актыўна рушыць у камерцыю, дзе для клубаў адкрываецца самае сапраўднае Эльдарада. Галоўнае, каб пры гэтым пра сам спорт не забыліся...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПО ПОВОДУ

*Мария ЭЙСМОНТ*



# И спросить не с кого

Два с половиной года назад в Ошмянском районе Гродненской области случилась трагедия. В гостевом домике конно-спортивного центра "Гиппико" сгорел 36-летний капитан милиции, сотрудник элитного подразделения ГАИ МВД "Стрела" Анатолий Луцевич. Его двум сослуживцам А.Дековичу и А.Подлешуку удалось спастись. На пепелище было найдено несколько пустых бутылок из-под водки, окурки от сигарет и... пистолеты Макарова, принадлежащие сотрудникам "Стрелы". Прокуратура Гродненской области сразу после случившегося начала проверку.

Но точка в этом деле была поставлена лишь недавно: виновных в пожаре нет.

Конечно, не в полномочиях журналистов обсуждать или давать оценку судебным решениям. Но предать гласности подробности данного разбирательства мы имеем право. Тем более что об этой жуткой истории мы писали буквально по горящим следам, выезжали на место трагедии, разговаривали с очевидцами, обращались за комментариями в местный МЧС, прокуратуру Гродненской области. И следили за тем, как идет разбирательство. Хотя собирать информацию было непросто, даже потерпевшая сторона — центр "Гиппико" — не хотела никакой огласки, руководство на каждый телефонный звонок реагировало кратко: "Без комментариев".

Почему же это дело было так завуалировано? Почему так долго шло разбирательство? Вероятно, потому, что фигурантами стали люди в погонах, сотрудники элитного подразделения МВД, куда, как принято считать, берут самых-самых. А тут — водочные бутылки и обгоревшее оружие на пепелище...

Вкратце напомню о самой трагедии.

Беда случилась рано утром в субботу 23 октября 2010 года. Накануне, в пятницу, четверо сотрудников "Стрелы" сняли гостевой домик в "Гиппико". Столичные милиционеры несли службу в Гродненской области, сдавать дежурство должны были в субботу. Но почему-то решили в пятницу остановиться в частных апартаментах, к слову, в очень модном уютном домике с камином и двумя спальнями на втором этаже. Вероятно, хотели отдохнуть, расслабиться после напряженных трудовых будней. Хотя сами милиционеры утверждали, что причиной заселения в комфортабельное жилье стало... отсутствие горячей воды в гостинице воинской части, где они остановились.

Пожарная сигнализация сработала в 6 утра. Дом горел изнутри. Один из милиционеров успел выскочить из дома, другой — выпрыгнуть в окно, третий — 36-летний капитан милиции крепко спал и даже не понял, что произошло. Работникам "Гиппико", примчавшимся на пожар, спасти его не удалось. Причиной смерти стало острое отравление окисью углерода. К слову, в ходе проверки будет установлено, что у одного из милиционеров в крови было 0,67 промилле алкоголя, у второго — 0,35. (Хотя в субботу на протяжении дня они должны были работать, их смена заканчивалась только вечером.) Четвертый из прибывших в Гродненскую область сотрудников "Стрелы" С.Тарахович был трезв, но его в момент пожара в домике не оказалось: в ту ночь он уехал к знакомой в Лиду.

Следствие рассматривало несколько версий причины возгорания. Началась проверка.

Длилась она почти три месяца. Эксперты установили, что причина пожара — неосторожное обращение с огнем отдыхавших милиционеров. Казалось бы, дело несложное: случилось ЧП, виновные установлены, пострадавшие должны получить компенсацию. Но дальше стали происходить странные, с точки зрения обычной логики, вещи.

В ходе разбирательства были опрошены все, кто имел отношение к трагедии — владельцы центра, работники, которые непосредственно тушили огонь, и, конечно, милиционеры. Последние ситуацию представили так, что, по сути, виновным оказался сгоревший капитан — их сослуживец и, видимо, даже приятель. Мол, они на тот момент были некурящими, а их товарищ курил и уходил спать последним. Хотя по мобильному телефону почти до 4-х утра разговаривал как раз таки один из милиционеров, сумевших спастись.

Однако следствие, как мне кажется, не сильно вникало в эти детали и сделало заключение: формально в пожаре виновен сгоревший капитан милиции. Пожар возник по неосторожности, ущерб, нанесенный центру, не является особо крупным, в возбуждении уголовного дела отказать.

Естественно, что руководство "Гиппико" с таким постановлением не согласилось и подало в суд Ошмянского района иск о взыскании убытков. Но там дело "развернули", разъяснив, что с подобным иском надо обращаться в Хозяйственный суд или в МВД. Мол, коль это была командировка, то выходит, что все случилось во время работы, пусть тогда работодатель — МВД — возмещает ущерб за своих сотрудников.

Министерство внутренних дел наотрез отказалось платить. Аргумент: пожар случился хотя и во время командировки, но не при исполнении сотрудниками "Стрелы" служебных обязанностей. При этом пенсию семье погибшего МВД назначили. И это правильно: в семье двое несовершеннолетних детей. Но налицо явная нестыковка: если пенсия — значит, при исполнении, если возмещать ущерб — вне работы.

"Гиппико" такое решение МВД решило оспорить. И обратилось в Минский Хозяйственный суд. И снова отказ. Суд решил, что виновные в пожаре не установлены, все случилось не при исполнении служебных обязанностей, значит, работодатель — МВД — не обязано платить по счетам своих сотрудников.

Однако "Гиппико" решило не сдаваться. Очередное заявление снова поступило в суд Ошмянского района. Но его снова отказались рассматривать. Объяснение: дела, фигурантами которых выступают люди в погонах, с 1 января 2013 года рассматриваются военным судом. Гражданское дело по иску "Гиппико" передали на рассмотрение Минского межгарнизонного военного суда, однако президиум Гродненского областного суда это решение отменил и дело снова направляется в суд Ошмянского района. И уже в феврале этого года в очередной раз районный суд вынес вердикт: в иске отказать.

Получается, что возмещать ущерб частному центру никто не будет, спросить за пожар не с кого. Пожар случился по неосторожности, которую отдыхавшие вместе сослуживцы, по сути, списали на погибшего капитана.

...Сотрудников "Стрелы", погоревших в "Гиппико", к слову, в звании понизили, из элитного подразделения перевели служить в ГАИ одной из областей. Вряд ли они обижаются на судьбу: и живы остались, и погоны не потеряли. Хотя с моральной точки зрения... Совесть — она без зубов, но грызет. Или не всех и не всегда?..

Что касается вышеназванных судов, то тут, кажется, всем все ясно...

РУБАМ!

# Каму смыліць бронзавы Старавойтаў?

*Ужо і саракавіны мінулі, як не стала Васіля Канстанцінавіча Старавойтава — двойчы Героя Сацыялістычнай Працы, былога старшыні калгаса "Рассвет" на Магілёўшчыне. Яшчэ пры жыцці, калі слава Старавойтава лунала над абсягамі не адно Беларусі, але ўсяго СССР, знаным скульптарам Уладзімірам Летуном быў выкананы бронзавы бюст Героя... Меркавалася, што ён будзе ўстаноўлены ў Мышкавічах, дзе Васіль Канстанцінавіч 30 гадоў узначальваў лепшую ў краіне гаспадарку. Ён пераняў "Рассвет" у 1968 годзе ад Кірылы Пракопавіча Арлоўскага — Героя Савецкага Саюза, чалавека-легенды, славутага партызана, а потым і гаспадарніка... Бронзавы бюст Кірылы Арлоўскага, створаны скульптарам М.Рыжаковым і архітэктарам Ю.Казаковым, займае сваё пачэснае месца на цэнтральнай сядзібе "Рассвета". А дзе ж бронзавая выява Васіля Канстанцінавіча?*

*На заднім двары, лічы, на сметніку Скульптурнага камбіната ў Мінску. І ўжо шмат гадоў...*



Даведаўшыся ад Васіля Якавенкі — вядомага ў краіне літаратара і грамадскага дзеяча — пра такі, даруйце, дзікунскі факт, еду на Смаленскую, у той самы камбінат... І напраўду: сярод гранітнага і мармуровага друзу, у суседстве з паўразваленымі гіпсавымі скульптурамі ды замшэлымі бетоннымі палямі падпірае неба бронзавы бюст яшчэ ўчора жывой легенды...

Толькі аднойчы (на пачатку 1980-х гадоў) мне давялося сустрэцца са Старавойтавым: прыехаў у Мышкавічы, каб пасля напісаць артыкул у часопіс "Бярозка" — пра Арлоўскага, пра "Рассвет", пра Старавойтава... Даведаўшыся, што публікацыя будзе адрасавана падлеткам, Васіль Канстанцінавіч (на маё здзіўленне) аднёсся да "сталічнай замарочкі" надзвычай сур'ёзна. Але гаварыў не пра сябе і нават не пра дасягненні "Рассвета" — у асноўным пра цікавасць жыць і працаваць на вёсцы. Прычым ніякага ментарскага тону, ніякіх павучанняў і агульшчыны: адно жыццёвыя гісторыі, звязаныя з простымі людзьмі — тымі, хто поруч з ім, хто ад працы на зямлі мае радасць і задавальненне... Ноткі гумару і "дарослай несур'ёзнасці" парадаксальным чынам пасавалі... ягонай суровай знешнасці. Пасля прыйшло разуменне: мудры чалавек застаецца такім і ў адносінах да неаперaных малалетак — ім жа доўжыць адвечна-хлебаробскае. А гэтым Старавойтаў быў занепакоены ўжо тады... Памятаю, як моцна ўразіла харызматычная фігура Васіля Канстанцінавіча — што постаццю, што валявым тварам, што голасам. Яшчэ падумалася: калі б на часы Агюста Радэна, то лепшай мадэлі і не знойдзеш...

І вось... на сметніку, сярод друзу... Чаму такое здарылася? Хто не зацікаўлены і чаму, каб бронзавая фігура рассветаўскага героя і пакутніка не ўзвышалася над плошчай у Мышкавічах?.. Пры жыцці ім усцешваліся, ганарыліся, ставілі ў прыклад... Не дзіва — "Рассвет" разам са сваім старшынёй на той час апярэджвалі савецкі час як не на 50 гадоў! Можа, таму "забыліся" на двойчы Героя, што (па словах Васіля Якавенкі) "*Васіль Канстанцінавіч належаў да кагорты тых вясковых кіраўнікоў, якім удавалася так ці інакш адваёўваць у партакратыі хоць бы адносную прастору для творчай дзейнасці, і, само сабою, яны дамагаліся адмысловых вытворчых поспехаў не дзякуючы сацыялістычнай сістэме і тым больш калгаснаму ладу жыцця, а насуперак ім. Факт неаспрэчны. Пры ўсім пры тым у гаспадарках амаль не заставалася прасторы для творчай работы на зямлі шараговым сялянам, і адсюль у Старавойтава-мысляра, які сотню разоў усё перабраў у думках, абмазгаваў, з'явілася акрэсленая і горкая, як вырак, выснова:* ***"Няма той сілы, якая б прымусіла калгасніка працаваць дбайна і ў поўную сілу".*** *Не сакрэт жа, тая самая адмысловая сіла палягала ў іншай сістэме каардынат — у прыватнай уласнасці на зямлю, у прыцягненні зямлі, ад якой селяніна нахабна і груба адарвалі. У цэлым вынішчэнне сялянства як класа — вялікае злачынства былой таталітарнай сістэмы, і Старавойтаву тое злачынства, як нікому, яскрава адкрылася...*

З прыходам "гарбачоўскай эры" з'явілася, нарэшце, магчымасць нешта памяняць — паставіць сельгасвытворчасць і сам сялянскі лад жыцця з галавы на ногі. І былі адпаведныя захады з боку Васіля Канстанцінавіча ў гэтым кірунку. Але што атрымалася?..

У кастрычніку 1997 года ён быў адхілены ад працы і абвінавачаны ў перавышэнні сваіх паўнамоцтваў. Старавойтаву "прышылі" эканамічныя злачынствы, хабар і нават арганізацыю забойства Мікалуцкага... Павеяла сталінскім халадком: як ёсць чалавек, дык артыкул знойдзецца... Усе разумелі: арышт Старавойтава звязаны не столькі з ягонай працай, колькі з тым, што ён публічна (такі ўжо характар) выказаўся з крытыкай на адрас Аляксандра Лукашэнкі і не падтрымаў ягоную кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах.

Скончылася ўсё тым, што двойчы Героя прыгаварылі да двух гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі строгага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Працэс па справе набыў шырокі розгалас не толькі ў нашай, але і ў расійскай і далёказамежнай прэсе.

У калоніі Васіль Канстанцінавіч перанёс два сардэчныя прыступы, мікраінсульт, амаль страціў зрок... І ўсё гэта выпала на долю чалавека, які ўсяго сябе цалкам аддаў земляробчай справе, росквіту роднай зямлі, свайму "Рассвету", людзям... "Чалавекам, які апярэджваў свой час" назаве потым Старавойтава ганаровы старшыня АГП, былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч.

Усё гэта ў мінулым. Цяпер вернемся да асноўнага на дадзены момант: каму смыліць бронзавы Старавойтаў?.. Ці збіраюцца ўстанавіць бюст Старавойтава ў Мышкавічах?

Тэлефаную ў Кіраўскі райвыканкам і трапляю (трэба ж!) акурат на намесніка старшыні, якая не толькі ажыццяўляе развіццё сацыяльна-культурнага комплексу, але і каардынуе дзейнасць сельвыканкамаў — значыцца, спецыяліст па ідэалогіі. **Вольга Усеваладаўна Гаршкова** як быццам чакала званка — так узрадавалася, пачуўшы пра што ідзе гаворка! Аказалася, што ёй дадзена даручэнне ад больш высокага начальства (трэба разумець, ад старшыні райвыканкама, а мо і вышэй) знайсці бюст Героя. Сказала, што мясцовыя ўлады, роўна як і рассветаўцы, абавязкова выканаюць сыноўні доўг, установяць бронзавую выяву славутага земляка — ці то побач з пастаментам першага старшыні Кірылы Пракопавіча Арлоўскага ў цэнтры Мышкавічаў, ці то на самой магіле Васіля Канстанцінавіча. Але во праблема: ні ў архівах райвыканкама, ні ў архіўных сховах Магілёўскага аблвыканкама яна пакуль нічога не выявіла... Не дзіва — гэтулькі часу прайшло. Але ж, думаю, у сапраўдных гаспадароў нічога так не прападае. Выходзіць, трэба шукаць! Па словах Вольгі Усеваладаўны, ім нічога не вядома пра тое, дзе адлівалі бронзавы бюст, хто выконваў заказ, хто аплачваў яго. І, само сабою, яны не ў курсе, які скульптар спрычыніўся да стварэння бронзавага Старавойтава. Не ведаюць яны і дзе знаходзіцца той бюст... Прыйшлося тлумачыць, дзе "сякера пад лавай" — амаль у цэнтры сталіцы, па адрасе: вул. Смаленская, 52А, Скульптурны камбінат. Калі што — сам падвязу, праводжу, пакажу...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА

## *«Беларуськалій» набыў 30% клайпедскага тэрмінала*

Аб гэтым паведаміў прэм'ер-міністр Беларусі **Міхаіл Мясніковіч.**

*"Беларуськалій" фактычна купіў 30% тэрмінала сухіх насыпных грузаў. Гэта вельмі вялікі тэрмінал. Я лічу, што гэтыя інвестыцыі ў 30 млн долараў — добрыя інвестыцыі",* — сказаў Міхаіл Мясніковіч. Такім чынам, пакет акцый тэрмінала ў памеры 30% належыць ААТ "Беларуськалій", растлумачыў ён. Беларусь інвестуе ў эканоміку Літвы.

Летась беларускія інвестыцыі ў Літву перавысілі 70 млн еўра. *"У гэтым годзе мы ўжо інвеставалі ў Клайпедскі порт 30 млн долараў. Гэта першыя беларускія інвестыцыі ў порт. Зараз ідзе прапрацоўка, каб яшчэ купіць пакет акцый кампаніі для "Гродна Азота" па азотных угнаеннях. Такім чынам, гэта досыць добры інвестыцыйны партфель",* — адзначыў прэм'ер-міністр.

ТЫМ ЧАСАМ

## *Беларусь наведае літоўскі прэм'ер?*

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч паведаміў, што ягоны літоўскі калега **Альгірдас Буткявічус** наведае Беларусь з візітам у чэрвені гэтага года.

МЕРКАВАННЕ

## *На якіх аўто будуць ездзіць беларусы?*

Павышэнне мыты на легкавыя машыны ў 2011 годзе прывяло да таго, што кошты на патрыманыя аўто падскочылі амаль у два разы. Больш як на год гандаль амаль замёр, але цяпер паціху ажывае. Аднак зразумела, што перапрадаваць старыя машыны доўга нельга. На чым будуць ездзіць беларусы праз 5 гадоў?

Вядомы ў Беларусі аўтаэксперт, былы кіраўнік Асацыяцыі ўладальнікаў і кіроўцаў аўтамабіляў **Алег Маркевіч** выказаў меркаванне, што аўтапарк беларусаў будзе складацца ў асноўным з малалітражак, што эксплуатуюцца ад 3 гадоў і прывезены з Захаду. *"Бо на іх самая танная растаможка. Аб'ём рухавікоў — да 1,5 літра. Бо ўсё, што больш, гэта нявыгадна",* — мяркуе Алег Маркевіч.

Другой важнай тэндэнцыяй блізкай будучыні спадар Маркевіч называе наступленне на беларускі рынак аўтамабіляў расійскай зборкі — заходнееўрапейскіх, японскіх, карэйскіх фірм. Галоўная прычына экспансіі, на яго думку, нізкая растаможка і якасць зборкі, якая робіцца ўсё лепшай.

АКТУАЛЬНО

# Будет ли дорожать электроэнергия?

*Представители энергетического сектора утверждают, что население Беларуси платит за свет непозволительно мало. В то же время Александр Лукашенко поручил Комитету государственного контроля провести детальную проверку обоснованности формирования тарифов на электроэнергию.*

## Дешевый свет?



15 апреля во время онлайн-конференции на сайте БЕЛТА генеральный директор РУП "Минскэнерго" Евгений Воронов заявил, что затраты на электроэнергию занимают последнее место в бюджете белорусской семьи. По его словам, с 1980 года меньше всего для населения подорожала электроэнергия.

*"Проанализировав уровни тарифов на электрическую энергию в некоторых странах Европы и СНГ, можно сделать следующие выводы: тарифы для промышленных потребителей в Беларуси находятся на среднеевропейском уровне, а тарифы для населения — наоборот, значительно ниже не только среднеевропейских, но и тарифов в странах СНГ. Причем только в Беларуси и в Украине тарифы для населения ниже, чем для промышленных потребителей",* — сказал Евгений Воронов.

По словам гендиректора "Минскэнерго, *"в 1980 году тариф за 1 кВтч электроэнергии для населения составлял 4 копейки (для промышленности — 3,5 коп., для сельского хозяйства — 1 коп.). На среднюю в то время заработную плату (около 165 руб.) советский человек мог потребить в месяц 4125 кВтч, сегодня (при средней заработной плате 5 млн бел. руб.) — более 13.000 кВтч".*

Воронин констатировал: *"Учитывая существующий уровень тарифов на электрическую энергию, у населения отсутствует экономический стимул для ее рационального использования".* Значит, тарифы будут расти. Гендиректор "Минскэнерго" напомнил, что госпрограммой предусмотрено поэтапное повышение возмещения населением затрат на оказание услуг по энергоснабжению до уровня не менее 60% к 2015 году. Сегодня белорусы возмещают себестоимость производства электрической энергии на 31,9%.

## Сначала рост зарплаты, а потом тарифов?

16 апреля Александр Лукашенко провел совещание по вопросу функционирования и развития белорусской энергетики. Речь на нем шла и о тарифах на электроэнергию.

В очередной раз Лукашенко заявил, что "рост доходов людей должен опережать рост цен". А постоянное повышение тарифов, по его словам, вызывает негативную реакцию как субъектов хозяйствования, так и населения.

*— На этом начинают активно спекулировать и наши противники. Поэтому мной было поручено Комитету государственного контроля провести детальную проверку обоснованности формирования тарифов,* — сказал глава государства.

Но коснется ли проверка КГК простых граждан? Председатель Комитета госконтроля Александр Якобсон считает, что в первую очередь надо решать вопрос о тарифах для промышленных предприятий, снижать их. По его словам, перекрестное субсидирование, когда применяются так называемые базовые тарифы для населения за счет предприятий, несет большие убытки. Высокие тарифы на электро- и теплоэнергию для промышленных предприятий приводят к отказу их от централизованного энергоснабжения и строительству собственных энергоисточников. В результате снижается нагрузка на энергосистемы и повышается стоимость вырабатываемой энергии для оставшихся потребителей. В качестве сравнения Александр Якобсон привел тариф для промышленных потребителей соседних с Беларусью стран. В Латвии он составляет 12 центов за кВтч, в Польше — 10, в России — 9, в Беларуси — 14.

Значит, можно сделать вывод, что для предприятий тарифы на электроэнергию снизят, а для населения — повысят. И совпадет ли это с ростом зарплаты, не известно.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

К СЛОВУ

## *Сколько белорусы платят за электроэнергию.*

| Тарифы с 01.02.2013 г. | Объем потребления, кВтч в месяц | Тариф, рублей за 1 кВтч |
|---|---|---|
| Для граждан, проживающих в домах, оборудованных электрическими плитами | до 250 кВтч | 324,9 |
| | от 250 до 400 кВтч | 422,4 |
| | свыше 400 кВтч | 841,7 |
| Для граждан, проживающих в домах, не оборудованных электрическими плитами | до 150 кВтч | 382,4 |
| | от 150 до 300 кВтч | 497,1 |
| | свыше 300 кВтч | 841,7 |
| Для граждан, проживающих в домах, не оборудованных электроплитами и системами централизованного горячего водоснабжения и снабжения природным газом | до 300 кВтч | 382,4 |
| | свыше 300 кВтч | 497,1 |

СІТУАЦЫЯ

# Вольгу Іванюк з маленькай дачкой могуць выселіць на вуліцу...

Нягледзячы на тое, што ёсць рашэнне Мінскага гарадского суда, 22-гадовая маці Вольга Іванюк не ўпэўнена, што ёй і яе маленькай дачцэ больш не пагражае высяленне з інтэрната на вуліцу.

...Гэтая гісторыя пачалася яшчэ ў 1986 годзе, калі мама Вольгі Ніна Іванюк прыйшла ў аддзел кадраў фабрыкі імя Крупскай. Была шчаслівая ад таго, што ўладкавалася на працу ды яшчэ і пакой атрымала ў інтэрнаце ў самым цэнтры сталіцы, на скрыжаванні Беламорскай і Кульман, каля Камароўскага рынку. Работа падабалася, Ніна старалася працаваць, хаця заробкі былі не надта і вялікія. Неўзабаве выйшла замуж, нарадзіла ў 1990-м першую дачку, у наступным годзе — другую. Але тут адбыліся памятныя падзеі... Заробкі засталіся мізэрнымі, нават калі прадпрыемства стала называцца "Элема". Муж у камандзіроўках, усё шукаў, дзе б падзарабіць грошай на сям'ю. Усё часцей гучалі папрокі, адбываліся разлады...

Ніна прыгадвае: "*З мужам мы развяліся. Ну, не бачылі ніякага выйсця. Усе ў адным пакоі, грошай толькі каб на ежу хапіла. Я засталася па сутнасці адна з дзецьмі. Дапамагчы не было каму. Я ж сюды прыехала з Расіі. Мая маці — беларуска, яна ўсё марыла вярнуцца на радзіму, а атрымалася гэта толькі ў мяне. Ніколі аб гэтым не пашкадавала. Але дочкі падраслі, а мы ўсе ў адным пакоі... Разумееце, якія б ні былі адносіны паміж людзьмі, аднак гэта невыносна. Трэба, каб у кожнага быў хоць нейкі кавалак асабістай прасторы. Мы стаялі на чарзе ў выканкаме, але толку з таго... Старэйшая выйшла замуж, выпісалася і сышла да мужа. Яны жывуць разам з яго бацькамі. А вось у малодшай дачкі жыццё не складваецца — сустракалася з хлопцам, усё было нармальна. Потым яна зацяжарыла, нарадзіла дзяўчынку, але хлопец на ёй не жаніўся. Вось мы засталіся зноў утраіх у адным пакоі — я, Вольга і ўнучка Нэла. Перспектывы ніякай. Я з адчаю ў 2010 годзе ўзяла крэдыт у банку, каб пабудаваць аднапакаёвую кватэру і сысці. Калі б ведала, што будзе той крызіс і што так прыцісне, то, канешне, ніколі б не пайшла на гэта. Быў момант, калі трэба было тэрмінова ўнесці 6 мільёнаў рублёў. Я пайшла ў адміністрацыю і папрасіла, каб мне выдалі такую суму. Вось так яны і даведаліся, што я будую кватэру. Заробак у мяне каля 2 мільёнаў. Як крэдыт аддаваць? Я звольнілася і пачала круціцца на трох работах. Тут і пачалося... Адміністрацыя "Элемы" запатрабавала, каб Вольга з унучкай выселіліся з пакою. Аднапакаёўка мая без падлогі, без электраправодкі, голыя сцены і ўсё. А грошы ўсе ідуць толькі на тое, каб аддаць крэдыт..."*

Размову перарваў стук у дзверы. Гэта прыйшла сяброўка Ніны Наталля Гарачка. Яна села на канапу. Да бабулі на рукі ўзлезла двухгадовая Нэла і працягнула маме мабільны з мульцікамі. Наталля адразу ўключылася ў размову:

*— Ведаеце, якая сітуацыя атрымліваецца: адміністрацыя "Элемы" спасылаецца на тое, што Ніна выпісалася, а Вольга не працуе на прадпрыемстве. А Вольга, дарэчы, зараз знаходзіцца ў дэкрэце. Яна спрабавала туды ўладкавацца, але яе не бяруць, бо яны хочуць любымі сродкамі вызваліць гэтае памяшканне. Каб пераканацца ў гэтым, я пазваніла ў аддзел кадраў і спытала, ці могуць яны мяне ўзяць на працу. Сказала, што маю спецыяльнасць мадэльера-канструктара, але даўно не працавала па прафесіі і хацела б уладкавацца звычайнай швачкай. Яны сказалі, што возьмуць, бо ў іх шмат вакансій. Я адразу званю Ніне, крычу: "Хутчэй скажы Вользе, няхай бяжыць у аддзел кадраў і ўладкоўваецца..."*

Вольга замахала рукамі:

*— Я прыйшла да іх, а яны спыталі маё прозвішча і адразу: "А-а, Іванюк. Не, у нас для вас няма ніякай работы. Увогуле ніякай". Гэта пры тым, што ў іх такая цякучка. На камерцыйных прадпрыемствах плацяць у разы болей. Вось падалі на нас у суд...*

Паўстае пытанне: дзе былі прадстаўнікі органаў апекі, якія павінны сачыць, каб захоўваліся інтарэсы дзіцяці? Бабуля маленькай Нэлі не можа схаваць свайго абурэння:

— Прыйшла дама з апекі і адразу на судзе заявіла, што цалкам падтрымлівае пазоў "Элемы". Пасля таго як раённы суд пастанавіў выселіць усіх разам з дзіцём, Вольга спытала ў яе: "А куды ж мне дзець дзіця?" А тая ў адказ: "А вы аддайце яе ў дзіцячы дом. Потым, калі знойдзеце жыллё і ўладкуецеся на працу, то зможаце яе забраць". Вось табе і апека... Юрысты нам патлумачылі, што не могуць з інтэрната, дзе мая дачка прапісана ад самага нараджэння, выселіць яе разам з непаўналетнім на вуліцу. Закон жа ніхто не адмяняў. Чаму ж суд у такой сітуацыі стаў на бок прадпрыемства?

Наталля Гарачка патлумачыла:

*— Тут жа ходзяць чуткі пра тое, што наш інтэрнат могуць купіць расійцы. Вунь два дамы пабудавалі з "ушчыльненнем", а чатырохпавярховы інтэрнат столькі каштоўнага месца займае паміж імі. Пабудуюць "элітку" на гэтым месцы. Але ж спачатку трэба людзей неяк рассяліць. Магчыма, для гэтага і "падчышчаюць" непатрэбных.*

Юрыст "Элемы" Людміла Партон:

*— У нас інтэрнат для адзінокіх, а не сямейны. Але калі ў нашых супрацоўнікаў нараджаюцца дзеці, то, згодна з Грамадзянскім кодэксам, яны могуць жыць да 14 гадоў з адным з бацькоў. Таму, калі ў Іванюк нарадзіліся дочкі, то іх прапісалі... Калі ж яна пабудавала сабе кватэру аднапакаёвую... Дарэчы, мы ж ёй дапамагалі яе будаваць. Далі ёй крэдыт на 6 мільёнаў рублёў, а яна жыве ў інтэрнаце. У яе дачкі адна мэта — пабудаваць сабе кватэру па льготным крэдыце. Але ў яе на гэта няма ніякага права, бо яна ў нас ніколі не працавала, а пражываць магла толькі да 14-гадовага ўзросту... Яе мама пабудавала кватэру, дык няхай яна ідзе са сваёй мамай і там жыве.*

Пакінем на сумленні юрыста трактоўку заканадаўства і тыя словы, што жанчыне, якая амаль 30 гадоў адпрацавала на прадпрыемстве, дапамаглі пабудаваць кватэру, выплацілі страшэнную суму — 6 мільёнаў рублёў. Мы не ведаем, чаму раённы суд праігнараваў заканадаўчыя нормы і пастанавіў выселіць маладую маці з дзіцём на вуліцу, не ведаем, чаму прадстаўнік органа апекі заняла такую пазіцыю. Як бы там ні было, але гісторыя гэтая магла скончыцца значна горш, калі б Мінскі гарадскі суд пакінуў рашэнне раённага ў сіле.

Здавалася б, маладой маці больш нічога не пагражае. Але вось днямі з'явілася пастанова Саўміна з доўгай назвай *"Аб зацвярджэнні Палажэння аб інтэрнатах і тыпавога дагавора найму жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду ў інтэрнаце і прызнанні страціўшымі сілу некаторых пастаноў Савета міністраў".* Яна дазваляе цяпер высяляць "на вуліцу" тых, хто звольніўся з прадпрыемства, нават з малалетнімі дзецьмі. Калі ж адміністрацыя прадпрыемства дазволіць пражываць у інтэрнаце, то "шчасліўцы" павінны будуць плаціць за капрамонт.

Новы дакумент, які прыйшоў на змену ранейшаму (а ён дзейнічаў з 15 верасня 1999 года), змяніў парадак высялення наймальнікаў і членаў іх сем'яў з інтэрнатаў. Раней чалавек, які адпрацаваў на прадпрыемстве 10 гадоў, меў права карыстацца гэтым жылым памяшканнем, яго нельга было выселіць без прадастаўлення іншага жылля. Зараз усе асобы без выключэння, у тым ліку з дзецьмі, будуць падлягаць высяленню пасля спынення працоўных адносін. Няцяжка здагадацца, якую пазіцыю можа заняць адміністрацыя "Элемы" ў дачыненні да Вольгі Іванюк і яе маленькай дачкі. Хоць ім, як і ўсім людзям, так хочацца мець дах над галавой.



**Любоў ЛУНЁВА.**

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

# Пасля «Дзядоў»

30 студзеня 1968 г. у Нацыянальным тэатры Варшавы адбыўся адзінаццаты, апошні паказ спектакля "Дзяды", створанага галоўным рэжысёрам тэатра Казімежам Дэймекам паводле знакамітай драматычнай паэмы Адама Міцкевіча. Аўтар даў назву свайму твору невыпадкова. Узгадаваны ў гістарычнай Літве-Беларусі, ён змалку добра ведаў наш старажытны абрад, глыбінная сутнасць якога палягае ў сцвярджэнні метафізічнай існасці чалавека: жыццё, якое пачалося на зямлі, не сканчваецца ў хвілі смерці чалавека, а проста як бы пераходзіць у іншую іпастась. Тым самым паводзіны і маральны выбар чалавека ў зямным жыцці маюць свае найважнейшыя наступствы ў жыцці замагільным. Адсюль асаблівае значэнне праблемы "віны і пакарання" — зрэшты, больш знаёмай большасці нашых суайчыннікаў са значна пазней напісанага рамана Фёдара Дастаеўскага (продкі якога, як і продкі Адама Міцкевіча, між іншым, таксама паходзілі з той самай ліцвінска-беларускай шляхты).

Прэм'ера дэймекаўскіх "Дзядоў" на варшаўскай сцэне адбылася за два месяцы перад змушаным апошнім паказам спектакля. Залы на ўсіх адзінаццаці дазволеных спектаклях былі перапоўнены, шмат хто з ахвотных так і не здолеў трапіць у тэатральную залу, каб на свае вочы ўбачыць не толькі бліскучую рэжысёрскую рэалізацыю, але і фантастычнае выканальніцкае майстэрства тагачасных зорак польскай тэатральнай сцэны — Густава Галоўбека, Казімежа Віхняжа, Леха Ордана, Даміяна Даменцкага...

Праблемы ў аўтараў спектакля, аднак, пачаліся ўжо пасля першых выхадаў на сцэну. Тагачасная польская камуністычная ўлада паставіла Казімежу Дэймеку ўмову: пастаноўку дазваляецца паказваць не часцей як раз на тыдзень, а школьнікам можна прадаваць не больш за сто білетаў на адзін спектакль. Улады не рабілі такія захады цалкам па сваёй ініцыятыве. Справа ў тым, што пільны "старэйшы брат" у асобе КПСС убачыў у пастаноўцы твора, напісанага ў 20-я гады XIX стагоддзя, ні больш ні менш, а... "антысавецкую дыверсію". Занадта ўжо дзеянні царскіх душыцеляў свабоды нагадвалі паводзіны іх пазнейшых бальшавіцкіх духоўных пераемнікаў.

Забарона далейшых пастановак дэймекаўскіх "Дзядоў" пасля таго самага спектакля 30 студзеня 1968 года прывяла неўзабаве да вялікіх народных хваляванняў у Варшаве, рухавіком якіх выступіла варшаўскае студэнцтва. Тыя падзеі так ці інакш моцна паўплывалі на далейшую гісторыю: у 1970, 1976, 1980 гадах на арэну змаганняў з камуністычным рэжымам выйшлі рабочыя (між іншым, сярод іх лідараў былі таксама тыя, хто чытаў і глядзеў на сцэне "Дзяды"), да іх зноў далучылася інтэлігенцыя; урэшце, 1989 год вызначыўся гістарычным "круглым сталом" — і дэмакратычныя перамены ў нашых суседзяў зрабіліся незваротнымі...

17 красавіка 2013 года ў зале Палаца прафсаюзаў у Мінску адбылася прэм'ера паказу "Дзядоў" у межах праекта-антрэпрызы "Тэатр Беларусь-Ч". Найважнейшую ролю ў беларускай пастаноўцы знакамітага твора Адама Міцкевіча ў добрым беларускім перакладзе Сержа Мінскевіча адыгралі грамадзяне суседняй Літвы — галоўны рэжысёр Рамунэ Кудзманайтэ, мастакі Марыюс Яцоўскіс і Надзея Гульцяева, кампазітар Фаўстас Лаценас, а таксама народжаны ў літоўскім Панявежысе беларус Андрэй Чорны. Аднак іх намаганні наўрад ці рэалізаваліся б без зладжанага беларускага акцёрскага ансамбля. Проста бліскуча галоўную ролю Густава-Конрада выконвае Раман Падаляка (чым я асабліва ганаруся, бо калісьці вучыў яго літаратуры ў гуманітарным ліцэі). Выдатную эмацыянальную падтрымку яму забяспечваюць Святлана Анікей, Надзея Анцыповіч, Таццяна Гуляева, Юлія Кадушкевіч... Салідна і пераканаўча ў ролі Ксяндза выглядае заслужаны артыст Беларусі Сяргей Краўчанка. Запамінальны і Андрэй Саўчанка ў вобразе Яна Сабалеўскага. Вялікае ўзрушэнне ў зале і гарачыя воплескі падчас прэм'еры выклікаў маналог апошняга, у якім гаворка ідзе пра тое, як канвой царскіх войскаў выпраўляе віленскую моладзь у Сібір:

*Кібіткі пад'язджалі іншыя*
*тым часам,*
*У іх саджалі новых вязняў*
*раз за разам.*
*Агледзеў я натоўп:*
*народ, і нават войскі,*
*Стаялі бледныя,*
*як вылітыя з воску;*
*Злавесная навісла*
*цішыня наўкруг,*
*Былі чутны ў ёй мерны крок,*
*а з ім ланцуг.*
*У сэрцах боль — завошта*
*моладзь пакарана?!*
*Аднак народ маўчыць,*
*баючыся тырана.*

...З вышыні тэатральнага балкона разглядаю тых, хто сабраўся ў зале. Там Уладзімір Арлоў з жонкай, паэтэсай Валянцінай Аксак, іншыя вядомыя беларускія літаратары, мастакі, музыкі, "чыстыя" тэатралы, карэспандэнты польскіх і беларускіх СМІ. Збольшага людзі сярэдняга і старэйшага пакаленняў (калі не лічыць групкі вучняў таго самага гуманітарнага ліцэя). Зала на прэм'еры запоўнена, але ўражання, што так будзе на наступных спектаклях, няма. Сюды не прывялі сваіх вучняў настаўнікі мінскіх школ (гэта ж не хакей: бясплатнай "халявы" няма!), не прывялі сваіх студэнтаў выкладчыкі ўніверсітэтаў. Урэшце, здаецца, чарговы раз па сваіх Бруселях і Стакгольмах раз'ехаліся апазіцыйныя палітыкі (Уладзіміра Някляева я не лічу, бо яго галоўнай палітычнай любоўю заўсёды была Яе вялікасць Паэзія). На папулярных сайтах ідзе слоўная бітва: раптам зноў у наступленне пайшлі аматары дыялогу ўлад з Еўропай...

Не будзе, спадарове, ніякай Еўропы для іншых (акрамя вас) беларусаў, не будзе ніякага дыялогу. Бо вам, відаць што, не патрэбны (ці не даступны?) "Дзяды", а пакуль што... Галоўны Тэатрал Краіны ў яе галоўным тэатры "на обшчапанятным языку" вучыць жыццю-быццю беларускую інтэлігенцыю.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Няма 500 долараў

Яшчэ ў мінулым годзе Аляксандр Лукашэнка заявіў аб тым, што ён упэўнены ў здольнасці беларускай эканомікі забяспечыць у 2012 годзе рост сярэдняй зарплаты да 500 долараў у эквіваленце. Але такіх заробкаў большасць беларускіх работнікаў не бачаць і ў гэтым годзе.

Нядаўна Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя аб сярэднім заробку ў краіне за люты 2013 года. І атрымалася, што сярэдні заробак больш як у 50% работнікаў не перавышае 4 мільёнаў.

Паводле статыстычных даных, толькі 16,1% работнікаў мелі ў лютым сярэдні заробак у памеры 6 мільёнаў і вышэй. У 10,2% ён дасягаў ад 5 да 6 млн, у 15,8% — ад 4 да 5 млн рублёў.

Але большая частка работнікаў не зарабляла славутыя 500 долараў. У 20,6% працаўнікоў сярэдняя зарплата склала ад 3 да 4 мільёнаў, у 21,7% — ад 2 да 3 мільёнаў, у 14,5% — ад мільёна да двух. Былі і тыя, хто зарабляў менш за пражытачны мінімум, у 1,1% работнікаў сярэдняя зарплата склала менш за адзін мільён рублёў. Як можна пражыць за такія грошы?

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

## Колькасць безработных зніжаецца

Здзіўляцца гэтаму факту не трэба. Сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага ў Беларуси складае 131,6 тысячы рублёў. Гэта ўсяго толькі 13,7% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва.

Што да статыстыкі, то на канец сакавіка 2013 г. колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, склала 25,3 тысячы чалавек. Гэта на 18,3% менш, чым на канец сакавіка 2012 года, і на 3,3% менш, чым на канец лютага.

НЕРУХОМАСЦЬ

## Жылля для чаргавікоў будуюць значна менш

Справаздачу аб жыллёвым будаўніцтве ў I квартале 2013 года апублікаваў Белстат. Згодна з афіцыйнымі данымі, у студзені-сакавіку ў краіне было пабудавана 16,3 тыс. новых кватэр. І гэта менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года, калі лік новых кватэр склаў 17,3 тысячы.

Калі ўважліва паглядзець статыстыку Белстата, то атрымліваецца, што ў I квартале гэтага года ўведзена ў эксплуатацыю 1 млн 285 тыс. квадратных метраў агульнай плошчы жылля. Пры гэтым для маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў грамадзян уведзена ў эксплуатацыю 684,6 тыс. кв. м, або 53,3% ад агульнага аб'ёму пабудаванага жылля. У параўнанні з I кварталам 2012 года ўвод жылля для гэтай катэгорыі паменшыўся на 155,7 тыс. кв. м — амаль на чвэрць.

Дарэчы, у 2010 годзе ў краіне 80% усяго жылля будавалася з дзяржпадтрымкай, у 2011 годзе, калі здарыўся эканамічны крызіс, — 75%. Цяпер, выходзіць, жылля для чаргавікоў і для тых, хто будуецца на агульных умовах, узводзіцца практычна аднолькавая колькасць.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Герои «Вольнага горада», или История газеты в лицах и датах

*20 апреля 2013 года кричевской общественно-политической газете "Вольны горад" исполнится 15 лет со дня выхода первого номера. С чего начиналась газета? Кто стоял у истоков? Какие наиболее важные вехи в ее истории? И кто ее герои? Об этом полезно напомнить накануне знаменательной для издания даты.*

## Как все начиналось

Когда это было? Апрель 1998 года. Закат белорусской демократии. Оппозиционные силы собираются провести альтернативные выборы. То тут, то там появляются малые независимые газеты, несущие людям правду. Власть лютует, зачищая политическое и информационное пространство.

В Кричеве местная организация оппозиционеров начала издавать свой "боевой листок". Его название отразило главное направление их усилий: Кричев — вольный город. Таким он был со времен получения Магдебургского права, 380 лет тому назад. Таким он должен быть всегда. В нем должны жить свободные люди, избирающие свою власть, имеющие свой бюджет, свой герб, свою печать.

Так вот, о свободной печати. Газета "Вольны горад" появилась в Кричеве, как в свое время ленинская "Искра". Верстaлась, печаталась, переходила из рук в руки. О ее регистрации не могло быть речи: уж слишком "кусачей" оказалась эта газета, причем кусала в основном местных начальников и... за самые "больные" места.

"Массовиком-затейником" этой газеты стал непримиримый бэээнэфовец и "женоненавистник", проработавший всю жизнь с высоким напряжением, Владимир Кудрявцев. Он, как говорится, вызвал огонь на себя.

Движущей силой редакции стал молодой и энергичный партиец Сергей Неровный. Из соседней России волею судьбы занесло его родителей в Кричев. Здесь он окончил с отличием школу, потом поступил в Могилевский педагогический институт. Дальше прошел закалку в ракетных войсках стратегического назначения. Опять вернулся на "святое место" — в Кричев. Впереди ждала спокойная учительская работа, неплохая карьера — заместитель директора по учебной работе. Немного усилий и времени — и кресло директора образцовой школы, а там — портфель чиновника.

Ан нет! Спокойной жизни не захотел. Объединенная гражданская партия привлекла под свои знамена и дала задание — организовать в Кричеве партячейку и газету. С того времени покой С.Неровному только снится. То партийные дела, то выпуск газеты, то подготовка к выборам.

Сколько их было? В Кричевский райсовет — трижды, в Могилевский областной Совет — дважды, в Палату представителей — дважды. И всё — мимо кассы. Кто-то, может, посмеется, а знающий скажет: это — наш будущий депутат парламента, самый известный гражданин города и района. Но это будет завтра, а что было вчера?



**Михаил Пастухов *(первый слева во втором ряду)* и Юрий Топорашев *(первый слева в первом ряду)* с коллективом редакции "Вольного города".**

## Будни как военная хроника

Листаешь подшивки "Вольнага горада", читаешь репортажи и складывается впечатление, что перед тобой журнал боевых действий. Маленькая группка энтузиастов вступила в непримиримую борьбу за правду с местной властью. "Полем боя" стали все сферы жизни, начиная от огромной лужи перед вокзалом и кончая баней, где бедному кричевлянину не дают помыться. Досужая газета стала для власти как кость в горле. И как результат: бесконечные атаки на учредителя и редактора газеты. Вот некоторые факты.

13 июля 2001 года Сергея Неровного ведут босиком под милицейским конвоем в суд Кричевского района в связи с обвинением в захвате милиционера в заложники.

27 июля 2005 года. Демократические силы Беларуси отмечают День Независимости. Рядом с домом В.Кудрявцева разбрасываются листовки от имени РНЕ, направленные против редактора "Вольнага горада" С.Неровного и корреспондента газеты Н.Гердия. В них слова угрозы: "Убирайтесь к своим американским хозяевам, продажные БНФовцы!"

13 января 2006 года. На перехват тиража газеты на КПП "Звенчатка" российско-белорусской границы прибывает сам начальник местной милиции Ю.Симонов. При этом проводит профилактическую беседу с Неровным.

15 марта 2006 года. Дом учредителя газеты Владимира Кудрявцева заблокирован Могилевским ОМОНом. Изъяты компьютеры, оргтехника, фотоаппарат. Но "цитадель" не сдалась. В конце концов блокада была снята. Изъятое вернули.

18 марта 2006 года (за день до президентских выборов). С.Неровный и Н.Гердий без всяких оснований задерживаются милицией, местный суд определяет их в изолятор.

28 сентября 2007 года. Сотрудники органов милиции и государственной безопасности задерживают курьера с двумя тиражами газеты. Несмотря на то что тиражи не превышали установленной нормы, они были изъяты и позднее уничтожены.

9 июля 2010 года. Тираж газеты арестован милицией на Кричевском автовокзале. Поводом стала утечка информации о предстоящей публикации по фильму "Крестный батька".

1 сентября 2011 года. Администрация Кричевского лицея не продляет контракт с женой С.Неровного. Что-то доказывать бесполезно.

А сколько предупреждений сыпалось на головы Владимира Кудрявцева и Сергея Неровного! В 2005 году С.Неровный получил предупреждение от прокурора района за подготовку "революции под руководством А.Климова". Основой еще для одного предупреждения стала публикация "Черные дни", в которой автор — Сергей Неровный — позволил себе порассуждать о причинах взрыва в Минском метро 11 апреля 2011 года. По мнению властей, получилась "дискредитация правоохранительных органов, белорусского государства и общества". И если подобные рассуждения повторятся, то могут привлечь...

## Судебная эпопея

В истории газеты особое место занимает тяжба с райисполкомовской газетой "Ленинский клич" (ноябрь 2007 — апрель 2009 года). Инициатором "нападения" стала главный редактор "ЛК" Татьяна Ивкина. После неудачной попытки возбудить уголовное дело по факту публикации на страницах "ВГ" повести Валерия Бысова "Шесть лет в редакционном ГУЛАГе" она направила в суд гражданский иск в отношении В.Кудрявцева и В.Бысова о защите чести и достоинства. Свою "обиду" Т.Ивкина оценила на 10 млн рублей (по тем временам три тысячи долларов. — **Авт.**).

Этот "ход" был рассчитан на экономическое уничтожение независимой газеты. Похоже, что его инициаторы не сомневались в победе. Однако редакция "ВГ", поразмыслив, сделала ответный ход. Принимая во внимание, что на страницах райисполкомовской газеты "ЛК" периодически публиковались сказки-небылицы оскорбительного характера о корреспондентах газеты "Вольны горад", Владимир Кудрявцев и Сергей Неровный подали в суд иски о защите чести и достоинства против неустановленных авторов газеты "ЛК", а Николай Гердий обратился с заявлением о возбуждении уголовного дела в отношении редакции "ЛК" и авторов "сказок".

"Удар" пришелся под дых газете "ЛК": срочно пришлось искать юриста, способного взять дело под контроль. Между редакциями газет начался торг с предложениями о мире. К судебному процессу в Кричеве подключились юристы БАЖ. Исследованием спорных "фельетонов" занялись лингвистические эксперты.

С целью снизить общественный интерес к скандальному иску против газеты "Вольны горад" дело без всяких на то причин направили для рассмотрения в суд Чаусского района. Как и следовало ожидать, решение суда было вынесено в пользу Т.Ивкиной: ей присудили компенсацию в 500 тыс. рублей. Но ведь это — не 10 миллионов, на которые она рассчитывала в начале процесса.

Само судебное решение было, как говорится, шито белыми нитками. Однако добиться его отмены в Могилевском областном суде не удалось.

Ответное наступление "ВГ" против "компании Ивкиной" успеха не имело как по линии гражданского, так и уголовного процесса. Тем не менее полуторагодичная судебная эпопея принесла моральную победу "Вольнаму гораду". О газете узнали не только в районе, но и в области, во всей стране. Коллектив газеты поверил в свои силы, стал работать более уверенно и профессионально. Газета повысила свой имидж и вошла в число наиболее цитируемых независимых изданий Беларуси.

## Свет в конце тоннеля есть!

В одном из номеров "ВГ" (№5 от 10.02.2013 г.) редактор газеты Сергей Неровный выступил с материалом "Тьма в конце тоннеля". В нем шла речь об очередном повышении тарифов на электроэнергию. И не только об этом. В частности, о пьянстве, захлестнувшем широкие слои нашего общества, о слабости местных "кадров", в целом о системе власти, при которой не видно света в конце тоннеля.

Прямо-таки жизнь в темном царстве. Безрадостная, беспросветная, бесконечная. Так ли это? Неужели ситуация не изменится к лучшему? Неужели город Кричев не станет снова свободным, как 380 лет назад, а газета "Вольны горад" не получит официального признания?

Отмечая 15 лет полуподпольной деятельности газеты, надо смело заявить: хватит жить в информационном ГУЛАГе! Пора уже "включить свет" — и пусть общество, вся страна увидит героев "Вольнага горада".

Назовем их поименно: Владимир Кудрявцев, учредитель; Сергей Неровный, бессменный редактор; Николай Гердий, основной корреспондент; Сергей Аржанцев, корреспондент; Николай Царьков, корреспондент; Татьяна Лейбутина, корреспондент; Семен Понизовцев, фотокорреспондент; Дмитрий Мишуро, постоянный автор; поэт и постоянный автор Феликс Шкирманков; Николай Федоренко, курьер.

Придет время, и можно будет назвать "внештатных" авторов газеты, без которых издание не было бы столь информированным.

Спасибо, друзья, за ваш самоотверженный труд! Поздравляю вас с выходом 467-го номера газеты за 15 лет деятельности! Желаю дальнейшего развития газете, а каждому из вас — здоровья и благополучия!

Свет в конце тоннеля есть! Его лишь застилает тьма. Она рассеется. Скоро!

**Михаил ПАСТУХОВ, заслуженный юрист Республики Беларусь.**

*Кричев—Минск.*

БЛИЦ

## Сергей НЕРОВНЫЙ: «В читателях мы не сомневаемся»

**— Правда дается дорогой ценой...**

— Не без этого. Я бы, конечно, хотел видеть "Вольны горад" зарегистрированным изданием. Это позволит печатать газету в Беларуси, организовать подписку, продавать ее в киосках. К нам пришли бы рекламодатели, что, безусловно, укрепило бы газету материально.

Не сомневаюсь, что "Вольны горад" и как бизнес-проект был бы успешным — район получил бы немалые деньги в бюджет, газета обеспечила бы новые рабочие места, для молодежи прежде всего. Но пока это только мечты. И, вероятно, при этой власти они неосуществимы.

**— В вашей газете очень много эксклюзивной, интересной информации. Как вам удается ее получать?**

— Хороший журналист — это, можно сказать, хороший разведчик. Он умеет добыть, обработать нужную информацию. Огромный плюс, если журналист "на короткой ноге" с чиновниками, директорами предприятий, служащими. Как опутать территорию "своей агентурой" и как с ней работать — здесь у каждого свои подходы. Важна обратная связь с читателями. Порою люди дают такую информацию, что никаких "агентов" не нужно.

Что касается конфиденциальной информации, появляющейся на страницах "ВГ", то, по нашим данным, власть настолько этим обеспокоена, что вынуждена заниматься контригрой. Имеют место случаи, когда "доброжелатели" пытаются специально дезинформировать газету, чтобы подставить ее в глазах читателей. С этим тоже приходится считаться и бороться.

**Александр АСТАПОВ.**

РЭГІСТРАТУРА

# Французы дапамогуць пабудаваць бальніцу ў Мінску

*Па папярэдніх падліках, на будаўніцтва новай клінікі спатрэбіцца 300 мільёнаў еўра.*

Тое, што Мінску проста неабходна яшчэ адна стацыянарная медыцынская ўстанова, кажуць не адзін год. Але толькі зараз, напэўна, як ніколі блізка, падышлі да рэалізацыі гэтага праекта.

Нядаўна стала вядома, што ўрад Францыі прыняў рашэнне аб прадастаўленні страхавога пакрыцця на рэалізацыю праекта будаўніцтва бальніцы ў Мінску. Пра гэта паведаміла на сустрэчы з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Беларусі ў Францыі **Паўлам Латушкам** намеснік гендырэктара генеральнай дырэкцыі эканамічнай палітыкі Міністэрства эканомікі і фінансаў Францыі **Клер Вэзан.**

Будаўніцтва плануе ажыццявіць французская кампанія "Буіг" з прыцягненнем крэдытных рэсурсаў шэрагу вядучых французскіх банкаў.

У лютым гэтага года старшыня Мінгарвыканкама **Мікалай Ладуцька** на сустрэчы з жыхарамі Маскоўскага раёна сталіцы казаў, што на ўзвядзенне новай клінікі ў Мінску спатрэбіцца 300 мільёнаў еўра.

Сёння ў беларускай сталіцы функцыянуе 18 стацыянараў — гэта разам з інфекцыйнай бальніцай, Бальніцай хуткай дапамогі, дзіцячымі клінікамі і бальніцай паліятыўнага догляду "Хоспіс". Але літаральна ва ўсіх клініках не хапае месцаў для пацыентаў, часцяком хворыя людзі вымушаны ляжаць не ў палатах, а на калідорах. У Мінску на 1 тыс. жыхароў прыпадае 6,35 ложка, тады як у рэгіёнах 9—10 ложкаў. Але не менш за 10% пацыентаў сталічных клінік — не мінчане.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

СКАЗАНА!

## Няма здаровых прызыўнікоў? Вінавата сучасная медыцына

Чарговую порцыю супярэчлівых заяў зрабіў міністр абароны Юрый Жадобін.

Не так даўно кіраўнік Мінабароны сцвярджаў, што ў Беларусі не трэба развіваць альтэрнатыўную вайсковую службу. А днямі, выступаючы ў парламенце, выказаўся наконт беларускіх прызыўнікоў.

На пытанні дэпутатаў Жадобін адказваў падчас прадстаўлення законапраекта "Аб вайсковым абавязку і вайсковай службе". І заявіў, што лічыць немэтазгодным пашыраць спіс падстаў для адтэрміноўкі ад службы ў войску. *"Я і так не магу набраць здаровых і без адтэрміновак"*, — сказаў Жадобін. І ўдакладніў: *"У цяперашні час на ўліку ў ваенкаматах знаходзяцца 240 тысяч чалавек старэйшых за 18 гадоў. 140 тысяч атрымліваюць адтэрміноўку ў сувязі з навучаннем у навучальных установах, 35 тысяч атрымліваюць адтэрміноўку па здароўі і сямейных абставінах, 8—10 тысяч чакаюць адпраўлення ў месцы пазбаўлення волі. І атрымліваецца, што я не магу набраць здаровых і без адтэрміновак".*

*"У выніку прызываць няма каго"*, — заявіў Юрый Жадобін.

Закранаючы тэму стану здароўя прызыўнікоў, міністр сказаў: *"Я не доктар, але я гутарыў з адным з урачоў медкамісіі, пытаўся, чаму яны ў нас усе хворыя. Ён мне адказвае, што раней не было такога ўзроўню дыягностыкі, як цяпер". "Так, мы задралі такую планку ў пытаннях дыягностыкі, што ў нас няма абсалютна здаровых людзей. Медыкі і самі кажуць, што ў нас няма абсалютна здаровых прызыўнікоў, а ёсць недаабследаваныя"*, — дадаў кіраўнік Мінабароны.

І падвёў вынік сказанага: прызыўнікі *"не сталі горш па здароўі, а проста медыцына крочыла далёка наперад".*

ДЗЯКУЙ!

# Усе ведаюць Белакоза...

Калі не ўсе, то многія, вельмі многія — і ў Беларусі, і за яе межамі. Пра яго пісалі і пішуць газеты, хоць ён ніколі не ганяўся за славай і лічыць мэтай жыцця трапна сказанае вялікай Ларысай Геніюш: **"ЯК ЖЫЦЬ, ДЫК ЖЫЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ".** Менавіта гэтым радком назваў выдадзеную нядаўна сваю кнігу, прысвечаную Алесю Мікалаевічу Белакозу, ягоны гарачы прыхільнік Міхась Амелішка.

Нямала новага мы даведваемся пра выдатнага нашага сучасніка, слыннага дзеяча беларускай культуры, які разам са сваімі памочнікамі-аднадумцамі, тутэйшымі жыхарамі, пры падтрымцы мясцовых калгасных кіраўнікоў і дзеячаў мастацтва стварыў у вёсцы Гудзевічы Мастоўскага раёна ўнікальны гісторыка-краязнаўчы музей. Ён стаў прыцягальным культурным цэнтрам для землякоў і гасцей зблізу і здалёк. Тут, праз цікавейшыя экспанаты і дакументы, размешчаныя зараз аж у 15 залах, людзі даведваюцца пра мінулае сваёй вёскі і наваколле, далучаюцца да гісторыі Бацькаўшчыны, у летапісе якой столькі захапляльных старонак! Тут абуджаюцца глыбокія патрыятычныя пачуцці, гордасць за сваіх мудрых, працавітых і мужных продкаў, адчуванне ўласнай адказнасці за лёс роднай зямлі, яе будучыню. Тут найскладанейшы працэс выхавання, сталення чалавека-грамадзяніна ідзе нязмушана, неўпрыкмет, быццам само сабой. Гэта якраз і дае адчувальны выніковы эфект. Нездарма ж Алесь Мікалаевіч і па прафесіі, і па прызванні — Настаўнік з вялікай літары.



Яшчэ ў юначым узросце прыехаў у вясковую школу выкладаць беларускую мову і літаратуру. І толькі цяпер, пры сустрэчы з Міхасём Амелішкам, ён, не звыклы скардзіцца на лёс, даверальна раскрывае душу перад аўтарам будучай кнігі, распавядае, праз якія перашкоды, выпрабаванні давялося прайсці яму з сябрамі. "Дзякуй усім, хто ішоў на рызыку, атрымліваў вымовы, нават пазбаўляўся працы, але справы не кінуў, — не стамляецца паўтараць Алесь Мікалаевіч. — Народжаны ў муках музей — наша дзецішча, наш агульны гонар".

Шмат гасцей глыбіннай вёскі Гудзевічы набралася тут незабыўных уражанняў. Наведвалі музей у свой час К.Крапіва, М.Лынькоў, П.Броўка, П.Панчанка, М.Танк, І.Шамякін і іншыя славутыя майстры пяра. А Вольга Іпатава наогул была дзейснай і рашучай абаронцай музея, якому пагражала закрыццё як "рассадніку нацыяналізму".

...У аддзеле народнай медыцыны гэтай культурнай установы, якая мае зараз ганаровы статус Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-гістарычнага музея, ёсць экспанат — камень з беларускай зямлі. Гэта лекавы крэмень, гаючыя ўласцівасці якога праверыў на сабе, пазбавіўшыся цяжкай хваробы, сам Алесь Мікалаевіч. Ён шчодра раскрывае сакрэты цуда-каменя наведвальнікам Гудзевічаў. Але, думаецца, галоўная сіла Белакоза, які адлічыў ужо 85 гадоў жыцця, але па-ранейшаму поўны творчай энергіі, новых задумак і нязгаснага аптымізму, мае больш глыбокія карані. Яны — у моцы і вышыні яго духу, у беззапаветнай адданасці роднай зямлі. Заслужаны настаўнік і заслужаны дзеяч культуры Беларусі, кавалер медаля Ф.Скарыны не жадае іншых узнагарод, акрамя разумення, дзеля чаго ён жыве. Але я думаю: вось такім і даваць не толькі медаль, а і ордэн Скарыны! А ў нас... Ну ды ўсе мы ведаем: як і што.

Напаследак, дзякуючы Алесю Белакозу за ягоны подзвіг, хачу пажадаць яму многа-многа плённых год наперадзе — яму ж толькі 85!

**З павагай —**

**Роза РЫМАР,**
**жыхарка Гродна.**

НАБАЛЕЛА!

## *Пенсіянераў лечаць амбулаторна?*

У народзе ходзяць чуткі, што існуе нейкі негалосны загад зверху, каб старых пенсіянераў у бальніцу не бралі, калі няма інсульту ці інфаркту. Але ці праўда тое? Я не верыў. Пакуль...

26 лютага пад раніцу у мяне зрабіўся прыступ. Перад вачыма пабегла акно, як тыя кадры ў тэлевізары, сэрцу стала цяжка, пот шыбануў. Заплюшчыў вочы, пасядзеў гадзіну-другую, адпусціла. Пайшоў у паліклініку.

Далі талон да неўролага аж на 6 сакавіка. Думаю: занадта далёка. Папрасіў да тэрапеўта. Далі на 1 сакавіка. Ды толькі не дачакаўся. Уначы галава разбалелася, спаць не мог, прасядзеў усю ноч на ложку. Раніцай выклікаў "хуткую дапамогу", прыехалі. Паднялі руку, нагу, зрабілі кардыяграму. Думаў: мо да якога ўрача накіруюць. Не, паехалі, нават кардыяграму забралі.

Дачакаўся 1 сакавіка. Тэрапеўт выпісаў таблеткі "Мідакалм", сказаў, што ў мяне астэахандроз. Але да неўролага адразу таксама не накіраваў, кажа: талон ёсць на 6 сакавіка — і добра. Ды толькі галава не чакае, баліць, і спаць магу толькі на правым баку. І вось ён, неўролаг.

Добрая дзяўчына-ўрач усё ведае, малаточкам пастукала, вочы паглядзела з усіх бакоў, кажа: мо і астэахандроз, а можа, у вушах нейкія каменьчыкі адарваліся, трэба звярнуцца да ўрача-аталарынголага. Талон ёсць толькі на 19 сакавіка. Каб паставіць дыягназ, трэба, каб нейкі апарат у галаву паглядзеў. Аднак чарга вялікая — аж да жніўня месяца. А як за грошы, то можна і раней. Але ж дзе ў пенсіянера такія грошы?!

Неўролаг выпісала мне ўколы ў вену, купіў я тыя лекі і заплаціў 570.000 рублёў. Не пашанцавала, бо якраз тры дні свята і першую дапамогу змог атрымаць толькі 11 сакавіка, калі запрацавала паліклініка.

Вось я і думаю. Дыягназ быў не вызначаны, а лекі ўжо прызначылі. Прычым невядома было, ці дапамогуць яны. А каб у стацыянар трапіў, дык да 11 сакавіка, мяркую, ужо і вылечылі б, і выпісалі. Але ніхто пра бальніцу і не заікнуўся! Таму хочаш не хочаш, а пра існаванне вуснага загада не займаць бальнічныя ложкі пенсіянерамі паверыш.

**Сцяпан Цімафеевіч**
**АЛІЗАРЭВІЧ,**
**пенсіянер.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Як я стала падпісчыкам «Народнай Волі»

Паважаны Іосіф Паўлавіч!

У "Народнай Волі" за 5 красавіка я прачытала заметку В.П.Пінчука з Бабруйска, які выказвае свае меркаванні наконт таго, ці трэба пераводзіць газету на беларускую мову альбо пакуль з гэтым не спяшацца. Я згодна з яго пазіцыяй: выдаецца "Народная Воля" на дзвюх мовах, няхай і далей так будзе. На сённяшні час гэта аптымальны варыянт.

Я нарадзілася ў беларускай вёсцы, у школе, калі вучылася, усе прадметы, за выключэннем рускай літаратуры і рускай мовы, выкладаліся па-беларуску. Паступаючы ў ВНУ, я здавала экзамены па гісторыі і геаграфіі на беларускай мове і справілася паспяхова.

Ёсць яшчэ нямала людзей, якія не ведаюць Вашу газету, называюць яе "оппозиционной", укладваючы ў гэтае слова той змест, які навязваюць электарату ўлады. Але вось мае знаёмыя пачыталі артыкул А.Малочка "Унижение" і змянілі свае погляды на газету, пачалі купляць яе ў кіёсках. Многія пакуль не з'яўляюцца падпісчыкамі, але купляюць яе і чытаюць. Магчыма, і я Вашу газету мала ведала б, калі б мне людзі не параілі звярнуцца да Вас: "Пішыце, там вам дапамогуць".

Толькі дзякуючы Вашай уважлівасці і журналісту А.Малочка я не толькі стала Вашым чытачом, але і падпісчыкам. Два мае звароты ў "Советскую Белоруссию" нічога не далі: матэрыял адпраўлялі таму, на каго я скардзілася. Пасля гэтага для мяне не існуе пытання, на якую газету падпісацца і якую чытаць.

Хачу адзначыць, што ўсе Вашы журналісты (С.Калінкіна, А.Малочка, Г.Чыгір і іншыя) — прафесійна пісьменныя, лексіка ў кожнага свая, але цікавая.

У "Народнай Волі" за 2 красавіка я прачытала аб тым, што 19 сакавіка бягучага года "начальніку галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі падпалкоўніку міліцыі Уладзіміру Кротаву прад'яўлены абвінавачанні і ён утрымліваецца пад вартай". Можа б, я і не звярнула ўвагі на інфармацыю, калі б перада мной не ляжаў яго ліст — адказ ад 6 чэрвеня 2011 года, у якім ён паведамляе, што перапіска са мной спынена, што мая скарга ўжо разглядалася і ён згодны з ранейшымі вынікамі. Не што іншае, як звычайная адпіска. Вось якое стаўленне чыноўнікаў да пенсіянераў і простых людзей. Таму невыпадкова ён сам трапіў у пастку.

Адна мая знаёмая неяк сказала: "Не хадзі да чыноўнікаў, бо крумкач крумкачу вока не выдзеўбе". І дадала: "Хаджэнне па пакутах толькі расплюшчвае вочы на рэаліі жыцця". І я з гэтым згодна.

З найлепшымі пажаданнямі Вам, Іосіф Сярэдзіч, і Вашаму калектыву добрага здароўя і поспехаў у Вашай працы!

**Аляксандра Ігнатаўна**
**ДРАБЫШЭЎСКАЯ,**
**жыхарка Добруша.**

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ

# Один раз уже поспешили...

Небольшая заметка в "Народной Воле" за 5 апреля 2013 года о строительстве атомной станции, которое идет с опережением графика на четыре месяца, сразу напомнила советский лозунг "Пятилетку — в четыре года!".

И еще. В моем архиве сохранился экземпляр газеты "Известия" (второй по значимости в Советском Союзе), датированный 6 января 1986 года. На первой странице напечатана корреспонденция под названием "Созвездие энергоблоков", в которой рассказывается об успешной работе Чернобыльской АЭС имени Владимира Ильича Ленина. Особенно пафосно звучат следующие строки данной заметки: "Раньше ежегодно, согласно графику, хотя бы один из энергоблоков останавливали на плановый ремонт: он длился в зависимости от его сложности от 15 до 80 суток. Благодаря сокращению сроков ремонта графики удалось совместить. И годовое производство электроэнергии достигло в прошлом году (в 1985 г. — **Прим. авт.)** рекордной суммы — 28 миллиардов киловатт-часов". А далее речь шла о том, что "полным ходом идет строительство пятого "миллионника", пуск которого намечен на первый год 12-й пятилетки".

Это был радужный рапорт о строительстве пятого энергоблока. До "аварии", как скромно называли ее кремлевские идеологи, оставалось три месяца и 20 дней. Во-первых, не аварии, а планетарной катастрофы, о всех последствиях которой, возможно, станет известно только через века. А во-вторых, катастрофы можно было избежать, если бы не сокращались сроки ремонта всех энергоблоков.

А сейчас, заметьте, первый вице-премьер белорусского правительства с радостью сообщает об опережении графика строительства нашей АЭС. Скажите, до каких пор мы будем жить по советским канонам — сначала победные рапорты, премии, награды, а потом?.. Есть хорошая старая поговорка: "Поспешишь — людей насмешишь". Или другая: спешка нужна при ловле... сами знаете кого.

**Валерий Иванович**
**КОЗУБОВ,**
**ветеран труда.**

*Гомель.*

## *Слово в ответ*

**Большое спасибо читателям "Народной Воли", которые поздравили меня с Днем 55-летия! Особая благодарность ведущему юридической рубрики в "Народной Воле" Олегу Волчеку, пенсионеру из Минска Виктору Васильевичу Милькову и несгибаемому депутату Верховного Совета 13-го созыва, правозащитнику и журналисту Валерию Щукину.**

**Михаил ПАСТУХОВ.**

«НЕПРЫЧАСАНЫ» ЛІСТ

# Хто абароніць гонар нашага народа?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты "Народная Воля"!

Некалькі разоў перачытала заметку пра знос аўтавакзала "Маскоўскі" ў Мінску. І мне стала вельмі прыкра.

Людзі добрыя! Гэта ж жах! Каб так расійскія кіраўнікі не паважалі беларускі народ! Гэта ж цынічная насмешка з беларускага народа, з жыхароў Мінска, нават з прэзідэнта!

Атрымліваецца, што калі ў іх ёсць болей грошай, дык яны могуць так прыніжаць цэлы народ, беларусаў. Яны смяюцца і з народа, і з прэзідэнта! А Лукашэнка гаварыў аднойчы, што "белорусы малый, но гордый народ". Дык дзе ж наш гонар? Чаму ўлады не абараняюць гонар свайго народа? Чаму дазваляюць насміхацца з нас? Маўляў, глядзіце, у нас, расіян, многа грошай, і нас цікавяць толькі свае інтарэсы. Мы хочам рабіць так, як нам выгадна, а ваш лёс нас не хвалюе.

Гэтак яны могуць задумаць і знішчыць любую пабудову ў горадзе, нават святыню. І ніякай павагі няма ні да тых, хто праектаваў наш аўтавакзал (гэта ж іх дзіця, а яго нішчаць!), ні да жыхароў Мінска.

А дзе ж, яшчэ раз скажу, нашы ўлады? Дзе прэзідэнт і яго вялікая любоў да беларускага народа? Мабыць, любоў на словах, а не на справе? Хто ж пасля гэтага будзе нас паважаць?

Расійскія ўлады пры царызме лічылі беларусаў непаўнавартаснымі. Вазьміце хаця б падручнік па геаграфіі, выдадзены яшчэ ў Петраградзе ў 1915 годзе 29-м выданнем пад рэдакцыяй Е.А.Лебедзева. Паглядзіце, як там на фотаздымках паказаны народы, што насялялі Расійскую імперыю. На гэтых здымках толькі беларус зняты ў профіль, нібы вязень турмы...

Божа, уратуй беларусаў і Беларусь ад дзікунства! Мне вельмі балюча за многае, што дзеецца.

**З павагай —**

**Надзея Канстанцінаўна**
**ПАПОВА.**

*Мінск.*



АД РЭДАКЦЫІ

Надзея Канстанцінаўна Папова, як і многія іншыя чытачы, абураецца ўжо прынятым уладамі рашэннем аб зносе на карысць расійскага "Газпрома" аўтавакзала "Маскоўскі". І ставіць пытанне рубам: "Чаму прэзідэнт не абараняе гонар свайго народа?".

Гэты "непрычасаны ліст" мы публікуем фактычна без змен, даючы волю думкам і пачуццям аўтара. Надзея Канстанцінаўна выказвае боль, горыч і недаўменне: як такое можа адбывацца, калі "аб'ект", вельмі патрэбны і зручны для нашых людзей, хутка ператворыцца ў друз ва ўгоду багатаму алігарху-арандатару з суседняй краіны?

На многія свае рытарычныя пытанні Надзея Канстанцінаўна фактычна сама ж сабе і адказвае. Аднак гэтыя адказы не даведзены да лагічнага канца, які вынікае з ліста і, галоўнае, з рэалій нашага жыцця — палітычнага, эканамічнага, грамадскага. *"Гэта ж жах!"* — пратэстуе мінчанка. — *Каб так расійскія кіраўнікі не паважалі беларускі народ! Гэта ж цынічная насмешка з беларускага народа, з жыхароў Мінска, нават з прэзідэнта!"*

Справядліва заўважана, шаноўная Надзея Канстанцінаўна! Толькі адкажыце прама: ці можна паважаць таго, хто сам сябе не паважае? Давайце зірнём праўдзе ў вочы: А.Лукашэнка, пры маўклівай згодзе большыні свайго народа, стварыў у дзяржаве такую сістэму, дзе ўсе рашэнні па ўсіх пытаннях, ад глабальных, лёсавызначальных і да самых дробязных, не кажучы ўжо пра адміністрацыйную вертыкаль, заканадаўчую, выканаўчую і судовую ўлады, рэальна вырашае **АДЗІН** чалавек. Менавіта — ён сам. Незалежная Рэспубліка Беларусь пад кіраўніцтвам прэзідэнта, шукаючы розныя, далёка не заўжды ўзважаныя выгоды, без яснага бачання перспектывы, магчымых негатыўных наступстваў сённяшніх рашэнняў цягне краіну ў абдымкі Расіі, з разлікам на стварэнне саюзнай, адзінай з ёю дзяржавы.

У што гэта выліваецца ў нашым паўсядзённым жыцці ўжо зараз, вы бачыце. Угодніцтва перад чужым тоўстым кашальком, падобна, да дабра не давядзе. А давядзе хутчэй да страты заваяванай крывёю многіх пакаленняў незалежнасці краіны, далейшага прыніжэння ўсяго народа і сябе самога. Да прыкладу, будаўніцтва на шматпакутнай беларускай зямлі АЭС на расійскія грошы, па расійскім праекце, на расійскім ядзерным паліве, з расійскімі спецыялістамі (у беларусаў там, бадай, за рэдкім выключэннем, будзе роля кшталту "прынясі-падай") хіба не прывядзе да ўмацавання залежнасці ад магутнай дзяржавы-суседкі? Ужо цяпер яна, гэтая суседка, дазваляе сваім прадстаўнікам паводзіць сябе ў незалежнай (пакуль) Рэспубліцы Беларусь, як у сябе дома. Уздумалася галоўнаму начальніку "Газпрома" Мілеру паставіць шыкоўны гмах расійскага манапаліста ў прэстыжнейшым раёне Мінска, на галоўным праспекце беларускай сталіцы — ну і што з таго, што тут усяго некалькі год таму ўзвялі цудоўны будынак аўтавакзала, які патрэбны гэтым "тутэйшым"? Вось ім некалькі дзясяткаў мільёнаў "зялёных" — і хай маўчаць і задаволены будуць. Ёсць шматлікія пратэсты грамадзян? Дык хто іх слухае, калі прэзідэнт і ўрад краіны лепей чуюць расійскіх алігархаў. І яшчэ як пачуюць...

Дык вось, шаноўная Надзея Канстанцінаўна, што вынікае, калі як след задумацца над пастаўленымі пытаннямі. Іх ставіце не толькі вы — усю дэмакратычную грамадзянскую супольнасць, наколькі вядома, моцна непакоіць лёс краіны, будучыня дзяцей і ўнукаў. Ды палахлівае маўчанне многіх, хто не адважваецца выказаць услых сваю грамадзянскую пазіцыю, можа перакрэсліць добрыя, светлыя надзеі на лепшае.

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

# Без прымусу

***Хутка мой сын заканчвае вучобу, і, зразумела, мне б не хацелася, каб па размеркаванні ён трапіў у Чарнобыльскую зону ці ўвогуле далёка ад дома. Падкажыце, калі ласка, на каго размеркаванне не распаўсюджваецца?***

**В.І.Бірукова, Магілёў.**

Сапраўды, існуюць катэгорыі грамадзян, на якіх размеркаванне не распаўсюджваецца. Гэта прапісана ў артыкуле 83 Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі". Гэта:

1) выпускнікі, уключаныя Міністэрствам спорту і турызму у склад нацыянальных, зборных каманд Рэспублікі Беларусь;

2) выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і іх філіялаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі папраўчых устаноў крымінальна-выканаўчай сістэмы МУС, рэспубліканскіх унітарных вытворчых прадпрыемстваў Дэпартамента выканання пакаранняў, лячэбна-працоўных прафілакторыяў;

3) выпускнікі спецыяльных вучэбна-выхаваўчых устаноў і спецыяльных лячэбна-выхаваўчых устаноў.

Таксама існуюць катэгоры грамадзян, для іх размеркаванне адбываецца з пэўнымі выключэннямі (п.5 арт. 83 Кодэкса), а менавіта:

1) дзецям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў, месца працы прадастаўляецца па месцы замацавання за імі жылых памяшканняў, або па месцы ўключэння іх у спісы тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, або па месцы першапачатковага набыцця статусу дзяцей-сірот або статусу дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, або з іх згоды ў іншым населеным пункце;

2) дзецям-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў, інвалідам І або ІІ групы, праца прадастаўляецца з улікам стану іх здароўя па месцы жыхарства бацькоў, мужа (жонкі) або з іх згоды ў адно з наяўных месцаў працы;

3) асобам, якія маюць аднаго з бацькоў, або мужа (жонку) інваліда І ці ІІ групы, або дзіцяінваліда, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці па месцы жыхарства гэтых бацькоў, мужа (жонкі), дзіцяці-інваліда;

4) асобам, якія маюць медыцынскія супрацьпаказанні да працы па атрыманай спецыяльнасці (напрамку спецыяльнасці, спецыялізацыі) і прысвоенай кваліфікацыі, месца працы прадастаўляецца з улікам стану іх здароўя;

5) цяжарным жанчынам, маці (бацьку), якія маюць дзіця ва ўзросце да 3 год на дату прыняцця рашэння аб размеркаванні, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці па іх месцы жыхарства;

6) мужу (жонцы) асобы, выбранай на выбарную пасаду ў дзяржаўныя органы, альбо накіраванай на працу ў дыпламатычныя прадстаўніцтвы або консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь, альбо з ліку ваеннаслужачых Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў Рэспублікі Беларусь (за выключэннем ваеннаслужачых, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве, курсантаў), супрацоўнікаў Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь, органаў фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, органаў дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, мытных органаў, пракурорскіх работнікаў, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці па месцы праходжання службы жонкі (мужа);

7) мужу (жонцы), жонка (муж) якога (якой) працуе і стала пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці па месцы жыхарства і (або) працы жонкі (мужа);

8) мужу і жонцы, якім месца працы шляхам размеркавання павінна быць прадастаўлена адначасова, месца працы прадастаўляецца па іх жаданні і пры наяўнасці магчымасці ў адным населеным пункце.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Брат*

***Неаднаразова чытаў, што новы Папа Рымскі Францішак з'яўляецца езуітам, і мне стала цікава: а ці ёсць у Беларусі прадстаўнікі гэтага вядомага каталіцкага ордэна?***

**Ігар Стасяловіч,**
**г.Мінск.**

Гродзенскі ксёндз Казімір Жыліс — адзіны беларускі манах ордэна езуітаў. Ён нарадзіўся ў Літве, але прыняў беларускае грамадзянства, вырашыўшы назаўжды застацца ў нашай краіне. У часы Савецкага Саюза лічыўся заўзятым змагаром за веру і антысаветчыкам. Праўда, пра тое, што ён уваходзіць у ордэн езуітаў, тады не ведаў нават біскуп.



Зараз Казімір Жыліс служыць у галоўным каталіцкім храме Гродна і рэгулярна наведвае мясцовую турму, спрабуючы накіраваць на правільны шлях забойцаў і рэцыдывістаў.

## Да ведама

Афіцыйная назва ордэна езуітаў — "Таварыства Езуса". Ордэн з'явіўся ў сярэдзіне XVI стагоддзя, яго заснаваў іспанскі святар Ігнат Лаёла. Галоўным напрамкам дзейнасці стала апостальскае служэнне ў розных сферах і розных формах — місіянерская, навуковая і хрысціянска-асветніцкая дзейнасць. Ордэн езуітаў быў створаны, калі ў Еўропе набірала сілу Рэфармацыя і трэба было супрацьстаяць як ёй, так і пратэстантызму.

Зараз у свеце налічваецца каля 20 тысяч манахаў-езуітаў. Расійскае прадстаўніцтва ордэна (у яго ўваходзяць краіны СНД, акрамя Прыбалтыкі, у тым ліку і Беларусь) налічвае ўсяго каля 40 чалавек.

НА ЗАМЕТКУ

## *Дом, в котором жить нельзя*

*Какие помещения будут восстанавливаться, а какие — считаться непригодными для проживания? В апреле 2013 года вступило в силу постановление правительства, устанавливающее порядок обследования жилых домов и квартир.*

Непригодное для проживания жилье может быть восстановлено для проживания или переведено в категорию нежилых помещений. Непригодный для жилья дом могут снести.

Жилые дома теперь будут обследоваться ЖЭСами два раза в год: весной и осенью. Обследование квартиры будет проводиться только по письменному заявлению собственника по трем основным направлениям: техническое состояние конструктивных элементов (стены, перекрытия) и коммуникаций, степень благоустройства (наличие холодной и горячей воды, состояние канализации, газификация, электроснабжение), санитарное состояние.

Обследованию подлежат не только жилые дома, но и прилегающая территория (зеленые зоны, газоны, детские площадки).

В зависимости от серьезности дефектов помещения будут признаваться:

— пригодными для проживания, но не соответствующими санитарным и техническим требованиям (такие помещения можно восстановить для проживания);

— непригодными для проживания (возможен перевод в нежилые или снос).

### Пригодные

В первую категорию попадают помещения в цокольных этажах, на чердаках, помещения без кухонь либо с отсутствием в кухнях естественного освещения и вентиляционных каналов, помещения с высотой этажа от пола до потолка менее 2,4 метра.

Также сюда относятся помещения, в которых окна жилой комнаты выходят под арку или в крытую галерею или расстояние между окнами жилой комнаты и стеной противоположного здания не превышает 3 м (если такая комната не имеет других окон). Не соответствуют санитарно-техническим требованиям также комнаты, температура воздуха в которых на расстоянии 1,5 м от уровня пола превышает 25 градусов С при температуре пола выше 28 градусов С.

### Непригодные

Во вторую категорию включаются каменные здания с износом свыше 70%, деревянные дома с износом свыше 65%, а также квартиры, аварийное состояние которых невозможно устранить.

По результатам обследования составляется акт, который подписывает руководитель ЖЭСа (ЖРЭО). Акт направляется в исполком или администрацию района в городе, которая и принимает окончательное решение о судьбе квартиры (дома).

**Алесь ЖУРБА.**

